# З НОВЫМ НАВУЧАЛЬНЫМ ГОДАМ, ШКОЛЬНІКІ!



У ШКОЛУ... (Будынак на першым плане — Гайнаўскі дом настаўніка).

Фота В. МЛЫНЬЧЫК

Нядаўна на беразе Чорнага мора ў час сустрэчы пісьменнікаў — членаў Еўрапейскага згуртавання літаратараў з Мікітам Хрушчовым вядомы савецкі паэт Аляксандр Твардоўскі, аўтар славутай ваеннай паэмы «Васіль Цёркін» прачытаў новы свой твор, які выклікаў сярод прысутных вялікае ўражанне. Гэта, можна сказаць, працяг «Кнігі пра байца». Паэма вострасатырычная. Друкуем у скарачэнні. Поўнасцю друкавалі «Ізвесція». Будзе яна таксама ў VIII нумары савецкага літаратурнага журнала «Новы мір».


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№35 (392) | ГОД VIII | 1 ВЕРАСНЯ 1963 ГОДА | ЦАНА 60 ГР


## НАСУСТРАЧ НАВУЧАЛЬНАМУ ГОДУ

Ізноў восень. Пусцець пачынаюць палі, паказваюцца першыя жоўтыя лісты на дрэвах. Ізноў па вуліцах дзетвара з сумкамі за плячыма, са свежымі сшыткамі і свежымі думкамі спяшае ў школу.

Пачынаецца новы навучальны год, новы этап ахвярнай працы настаўніка, пільнай вучобы нашых дзяцей і школьнай моладзі. Перад тым, аднак як адкрыем свае кніжкі і сшыткі і са ўзрушэннем запішам «УРОК ПЕРШЫ» варта прызадумацца на хвіліну над заданнямі, якія стаяць перад намі ў гэтым навучальным годзе.

Будзе гэта другі год уводжання ў нашай краіне рэформы школьнай сістэмы. Поўная рэалізацыя рэформы патрабаваць будзе многа сіл ад настаўнікаў і асветных улад, а таксама ад бацькоў і ад самых вучняў. Патрабуе яна зразумення праз усё грамадства заданняў, якія ставяцца перад нашай школай. Поўнае ўвядзенне ў жыццё школьнай рэформы павысіць узровень навучання, наблізіць нашу школу да актуальных патрэб грамадства, прынясе карысць усёй краіне і самай моладзі.

Перад усім аднак са школьнай рэформы скарыстае вёска. Павысіцца арганізацыйная ступень вясковых школ, якія стануцца васьмікласнымі, атрымаюць яны лепшае абсталяванне, большую колькасць настаўнікаў, лепшыя памяшканні. Пабольшыцца колькасць інтэлігенцыі на вёсцы. Сялянскае

(Працяг на стар. 4)

## З ЛІСТАЎ ДЗЯЦЕЙ АБ ВАЙНЕ

«Бацькі свайго я не памятаю. Маці гаворыць, што быў ён вельмі добрым чалавекам. У 1939 годзе забралі яго на вайну. З вайны бацька не вярнуўся. Потым, у час акупацыі, быў у нас адзін чалавек, ён хадзіў гандляваць па вёсках. Чалавек гэты быў разам з бацькам і прыйшоў да нас, каб расказаць, як было. Гаварыў, што непадалёк ад бацькі разарвалася бомба і ён быў моцна ранены. Чалавек гэты нёс бацьку на руках у акоп. Бацька гаварыў, што «хіба ўжо не буду жыць», а гэты чалавек пацяшаў, што яшчэ ваяваць будзем. Бацька аднак не выжыў. І жыццё маё было вельмі цяжкім. Жыў я толькі з мамаю і ад дзяцінства мусіў цяжка працаваць. Каб жыў мой бацька, усё маё жыццё было б зусім іншым».

З лісту **Пеці Р.**
з Бельшчыны

Падрыхтаваная з разбойніцкай развагай у генеральных штабах, у таямніцы перад народамі, вайна нясла знішчэнне, слёзы і гора кожнаму мястэчку, кожнай вёсцы, кожнай хаце.

«Нарадзіўся я ў вёсцы Рэпіска ў 1950 годзе. Вайна была тады, калі мяне яшчэ не было на свеце. Калі я падрос, то з болем слухаў жахлівыя апавяданні аб здзеках гітлераўцаў у нашай вёсцы і цэлым Гайнаўскім павеце. Мая родная вёска пацярпела некалькі пажараў, выкліканых вайной. Як усе,

(Працяг на стар. 2)



А. ТВАРДОВСКИЙ

## Теркин на том свете

Тридцати неполных лет —
Любо ли не любо —
Прибыл Теркин на тот свет,
А на этом убыл.

Убыл — прибыл в поздний час
Ночи новогодней.
Осмотрелся в первый раз
Теркин в преисподней...

Поглядит — светло, тепло,
Ходы-переходы —
Вроде станции метро, —
Чуть пониже своды.

Перекрытье — не чета
Двум иль трем накатам,
Вот где бомба — ни черта
Не проймет — куда там!

(Бомба! Глядя в потолок
И о ней смекая,
Теркин знать еще не мог,
Что — смотря какая.

Что от нынешней — случись
По научной смете —
Так, пожалуй, не спастись
Даже на том свете).

И еще — что явь, что сон —
Теркин не уверен,
Видит, валенками он
Наследил у двери.

А порядок, чистота —
Не приткнуть окурок,
Оробел солдат спроста
И вздохнул:
— Культура...

Вот такие бы везде
Зимние квартиры.
Поглядим — какие где
Тут ориентиры.

Стрелка «Вход».
А «Выход»? Нет.

Ясно и понятно:
Значит, пламенный привет, —
Путь закрыт обратный.

Видит парень, как туда
К станции конечной,
Прибывают поезда
Изо мглы предвечной.

И выходит к поездам
Важный и спокойный
Того света комендант —
Генерал-покойник.

Не один — по сторонам
Начеку охрана.
Для чего — судить не нам,
Хоть оно и странно:
Раз уж списан ты сюда,
Кто б ты ни был чином,
Впредь до страшного суда
Трусить нет причины.

По уставу, сделав шаг,
Теркин доложился,
Мол, такой-то, так и так,
На тот свет явился.

Генерал, угрюм на вид,
Голосом усталым —
— А с которым, — говорит, —
Прибыл ты составом?

Теркин — в струнку, как стоял,
Тем же самым родом:
— Я, товарищ генерал,
Лично пешим ходом.

— Как так пешим?
— Виноват
(Строги коменданты!)
— Говори, отстал, солдат,
От своей команды?

Так ли, нет ли — все равно
Спорить не приходится.
— Ясно! Будет учтено.
И не повторится.

— Да уж тут, что нет, то нет,
Это, брат, бесспорно,
Потому как на тот свет
Не прилешь повторно, —

(Працяг на стар. 3)

# Фальшывы шлях

У палове жніўня г.г. прадстаўнік кітайскага ўрада выступіў у Пекіне з шырокай заявай, у якой выражае вядомыя ўжо раней адмоўныя адносіны КНР да заключанага ў Маскве трохстаронняга Дагавору аб частковай забароне выпрабаванняў ядзернай зброі. Змест гэтай заявы выклікае нашае здзіўленне не толькі таму, што Пекін адкідае Маскоўскі дагавор, які можа аказацца першым сур'ёзным крокам на шляху да раззбраення і трывалага міру, але і абурае, калі знаходзім тут нападкі на Савецкі Саюз і другія сацыялістычныя краіны, падтрымліваючыя прынцыпы суіснавання і мірнага вырашання непаразумленняў паміж Усходам і Захадам.

Маскоўскі дагавор кітайскія правадыры называюць «здрадніцтвам інтарэсаў... сацыялістычных народаў і народаў свету», «капітуляцыяй перад імперыялізмам» і «ганебнай змовай» в ворагамі сацыялізма. Як вядома, урад Савецкага Саюза ў адказ на гэтыя нападкі злажыў спецыяльную заяву, апублікаваную ў нашым друку 22 жніўня. Яе спакойны ў супрацьлегласці да кітайскага выступлення тон і разумная аргументацыя пераконваюць кожнага чалавека, для якога такія словы, як «мір», «шчасце» і «дабрабыт» не з'яўляюцца пустымі гукамі, а маюць найвышэйшую вартасць.

Нам — прыяцелям Савецкага Саюза — нельга не асудзіць кітайскіх спробаў скажэння і памяншэння гістарычнай ролі ўраду СССР, савецкай камуністычнай партыі ў барацьбе за мір, за бяспечнае жыццё і развіццё ўсіх сацыялістычных народаў — у тым ліку і кітайскага народа. Мы нават абавязаны заявіць кітайскім правадырам, што цэлае развіццё нашай краіны, больш таго, яе незалежнае існаванне заўдзячваем вайсковай і эканамічнай магутнасці Савецкага Саюза. Супроць нас жа ж, супроць нашых суседзяў — ГДР і Чэхаславакіі — накіраваны рэваншысцкія і рэвізіяністцкія планы правадыроў Заходняй Германіі. Кітайскія кіраўнікі не маюць права гаварыць нам, што Савецкі Саюз нездавальняюча бароніць нашых інтарэсаў перад апетытамі ФРГ. Наконт гэтага мы маем зусім іншыя погляды, абгрунтаваныя на штодзённай практыцы савецкай палітыкі.

Нашае здзіўленне выклікае яшчэ іншы аспект кітайскіх нападак на Савецкі Саюз і яго мірныя намаганні. Вось у заяве кітайскага ўрада адчуваецца жаданне выступаць ад імя ўсіх народаў свету, ашуканых быццам бы Маскоўскім дагаворам. Тымчасам аказваецца, што значная большасць дзяржаў з усіх кантынентаў падпісала ўжо гэты дагавор, адобрываючы тым самым палітыку міру. Гэтыя дагматычныя і халоднаваенныя погляды штораз больш ізалююць кітайскіх правадыроў. А гэта і павінна іх асцерагаць, што крочаць па фальшывым шляху. Аднак узрастаючае раздражэнне ў Пекіне, якое выражаецца ва ўсё больш вострых нападках на прыяцеляў, сведчыць, што там не хочуць рэагаваць на гэты сігнал.

Адзначаючы, што ў выніку заключэння Маскоўскага дагавору аб частковай забароне ядзерных выпрабаванняў «узрастае небяспека вайны», кітайскія кіраўнікі апынуліся ў радах найбольш заўзятых староннікаў гонкі ўзбраенняў у імперыялістычных краінах, такіх як, напрыклад, Тэлер у ЗША, які адкідае Маскоўскі дагавор, таму што ён не дае магчымасці Злучаным Штатам выпрабаваць у атмасферы бомбу ў 100 мегатон! У кітайскай заяве ёсць яшчэ адно небяспечнае сцвярджэнне. Згодна з ім лепш было б для справы міру, каб ядзерную зброю мела большасць сацыялістычных дзяржаў, а не толькі СССР. Мы гэта разумеем толькі так: Кітай хоча мець ядзерную зброю. З такім тэзісам савецкая заява расправуляецца вельмі коратка. Па-першае, — сцвярджае яна, — дзякуючы ўласнай ядзернай сіле СССР можа абараніць усе сацыялістычныя дзяржавы, аб чым добра ведаюць кітайскія правадыры і таксама амерыканскія; па-другое, не падлягае сумненню, што аснашчэнне кожнай новай сацыялістычнай дзяржавы ядзернай зброяй дало б імперыялістам аказію аснасціць ёю шматлікіх сваіх агрэсіўна настроеных партнёраў, як, напрыклад, Заходнюю Германію ці Тайван. Цяжка сабе ўявіць, каб такая пазіцыя магла б служыць справе захавання міру.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

# З лістаў дзяцей аб вайне

(Працяг са стар. 1)

цярпелі мае бацькі, бо некалькі разоў заставаліся пад голым небам. Калі паслухаеш гутарак старэйшых аб перажытых днях, калі кожную хвіліну былі пад страхам, тады мне часам здаецца, што гэта ўсё няпраўда. Здаецца, што гэта ўсё выдумалі, бо ў гэта ўсё цяжка паверыць. Але з праўды няпраўду не зробіш. З нашай вёскі загінула ж шмат людзей, якія аставілі свае сем'і».

**Міша Тэлешэўскі**
вёска Рэпіска
павет Гайнаўка

Многа спраў з таго часу зацерлася ўжо ў памяці, прызабылася. Нельга аднак забыць гітлераўскага тэрару, здзекаў над мірнымі жыхарамі нашых вёсак. Астанецца таксама назаўсёды памяць аб зацятай барацьбе супраць фашызму, аб партызанах і падпольнай дзейнасці, аб вялікіх ахвярах панесеных у змаганні за вызваленне.

«Раніцай 17 жніўня 1941 года да Тарнопаля прыехаў нямецкі аўтобус. У аўтобус гэты загналі членаў партыі і камсамольцаў. У дзвярах сталі немцы з аўтаматамі гатовымі да стрэлу, і аўтамабіль крануўся з месца. Павезлі іх на допыт. На допытах усе трымаліся цвёрда, і немцы многа ад іх не даведаліся. На другі дзень раніцай увапхнулі іх у той самы аўтобус і недзе павезлі. А куды, ніхто не ведаў, і толькі праз паўгадзіны ўсё выяснілася.

Аўтобус спыніўся непадалёк Смольні ў Тапільцу, як назвалі гэтае месца сяляне. Усіх нашых людзей вывелі з аўтобуса, і адвёўшы некалькі метраў ад дарогі, затрымалі.

Сяляне нашай вёскі пачулі доўгую кулямётную чаргу стрэлаў. Здагадаліся, што фашысты расстралялі камсамольцаў. Загінула іх там трынаццаць чалавек. Загінулі за нашае лепшае жыццё. У іх засталіся сыны і дочкі сіратамі. Яны цяпер выраслі і таксама, як бацькі, змагаюцца ў мірнай працы. У 1959 годзе яны агарадзілі месца расстрэлу бацькоў, паставілі там памятную табліцу, палажылі вянок і пасадзілі кветкі.»

**Янка Бура**
Тарнопаль
пав. Гайнаўка

«У часе вайны жыхары нашай вёскі ўцякалі ў лес ад немцаў, якія здзекваліся над людзьмі. Вось у нашай вёсцы Горна, а цяпер вуліца Горна горада Гайнаўка, стаяла школа, у якой у час вайны перахоўваліся партызаны. Сяляне нашай вёскі партызанамі гэтымі апекаваліся. Рабілі ім перавязкі і прыносілі ежу. Немцы аднак дагледзелі, што ў школе знаходзяцца партызаны, яны доўга не думаючы аблілі бензінам і падпалілі школу. Калі школа пачала гарэць то немцы пайшлі сваёй дарогай. У гэты час аднаму з партызан удалося ўратавацца. Тыя, што не маглі ўцячы з агню — згарэлі. Партызан, які астаўся жывым, прабыў у вёсцы некалькі дзён і пайшоў у рады партызанскага атрада, які знаходзіўся ў аколіцы Гайнаўкі».

**Ліда Данішэўская**
Гайнаўка
вул. Горна 108

«Зімою 1942 года пачалі да нас часцей заглядаць немцы. Яны дапытваліся, ці няма ў паблізасці партызанаў, фашысты шнырылі ў будынках, па гумнах, паролі штыкамі сена і салому. Шукалі зброі і партызан. Увайшоўшы

(Працяг на стар. 5)

# Спорт

Вочы і вушы нашых аматараў спорту ў мінулы тыдзень былі накіраваны на тры мерапрыемствы: чэмпіянат краіны па лёгкай атлетыцы, велагонку навокал Польшчы і футбольны марафон.

Лёгкаатлеты, пасля нядаўняга матча са зборнай ЗША, у якім выступілі вельмі слаба, цяпер парадавалі высокай формай. Шкада толькі, што прышла яна не перад сустрэчай з амерыканцамі.

Сёлетняя традыцыйная велагонка, нягледзячы на міжнародны склад, нейк не выклікала вялікага зацікаўлення. Мо' таму, што не так ужо даўно мы былі сведкамі магутнай Велагонкі міру і ў ёй разрадзілі свае хваляванні, і цяпер, калі выступаюць непараўнальна слабейшыя спартсмены, барацьба страціла колеры. А гэта ж юбілейная велагонка — XX.

Затое футбольны марафон штораз мацней прыкоўвае да сябе нашу ўвагу. Радуе неспадзявана добры старт навічкоў I і II лігі. Шамберкі і Унія ў першым эшалоне, Рапід і Люблінянка — у другім, далей робяць вялікую фурору.

Гэтага нельга сказаць пра навічкоў беластоцкай лігі. Удар, які нанёс у апошняй сустрэчы элцкі Мазур беластоцкаму Агніску (8:2), да гэтага на полі Агніска, слабую марку ставіць нядаўняму чэмпіёну класа «А». Здаецца, па-ранейшаму, асноўнымі сапернікамі будуць тут Мазур і Гвардыя. Хоць цяпер у турнірнай табліцы і вядзе нурэцкі Гусар, аднак сумняваемся, ці доўга ўтрымае гэту пазіцыю.

Пасля непланаванага раней месячнага перапынку, выкліканага інтарэсамі зборнай, пачаўся другі круг футбольнага чэмпіянату СССР. Пачаўся ён удачна для мінскіх дынамаўцаў. У выездным матчы перамаглі яны алмаацінскі Кайрат 1:0 і займаюць цяпер чацвёртае месца (за маскоўскімі і тбіліскімі аднаклубнікамі і ленінградскім Зенітам). Аднак перад беларусамі ляжыць вельмі цяжкая дарога. Паводле календара, у жніўні і верасні на сваім полі гуляюць яны толькі два разы (на 9 матчаў) і ўлічваючы кліматычныя ўмовы, наўрад ці ўдасца ім правесці ў Мінску адну — дзве сустрэчы больш. Вымушаны будуць выступаць на полі сапернікаў і нейтральных стадыёнах, а гэта патрабуе не абы якой закалкі. Прыпомнім, што ў савецкім чэмпіянаце выступае 20 каманд і трэба згуляць яшчэ 18 матчаў.

**Аут**

# ХРОНІКА

■ 21 жніўня прыбыў у Югаславію на адпачынак М. С. Хрушчоў. Пабыўка Хрушчова ў Югаславіі будзе працягвацца да 3-га верасня.

■ 22 жніўня штодзённы друк паведаміў, што Дзяржаўная Рада ПНР вызначыла Эдмунда Пшчулкоўскага паслом у СССР, адклікаючы з гэтай пасады Балеслава Яшчука, якога выбрана сакратаром ЦК ПАРП.

■ 16 жніўня насельніцтва Беластока ўрачыста адзначыла 20-тую гадавіну паўстання ў беластоцкім геце. Пры мемарыяльнай дошцы, умураванай у сцену «Дома друку» (месца масавага забойства яўрэяў) адбыўся мітынг працоўных, зложана вянкі.

■ У жніўні арганізавана ў беластоцкім музеі выстаўку народных мастацкіх вырабаў з саломы і гліны. Міністэрства культуры ПНР з гэтай нагоды ўзнагародзіла 22 народных мастакоў Беласточчыны. Сярод узнагароджаных былі Лявонь Саласцюкевіч (ганчар) з Кляшчэляў, Гайнаўскага павета, і Мікалай Казачук (саламяныя вырабы) з Рэдут, Бельскага павета.

■ 17 жніўня 19 працаўнікоў гмінных спулдзельняў Беласточчыны атрымалі тытулы перадавікоў сацыялістычнай працы. Сярод адзначаных знаходзяцца Мікалай Выркоўскі і Дзімітр Анішчук, кладаўшчыкі Бельскага ПЗГС.

■ Пасля доўгага перыяду сонечнай спякоты ў другой палове жніўня Заходнюю Еўропу нечакана наведала вельмі халоднае надвор'е. У некаторых краінах, напрыклад, у Швейцарыі, Германіі, Італіі і Аўстрыі выпаў снег.

■ Як вынікае са справаздачы гарадскога статыстычнага інспектарата ў Беластоку, горад Беласток у канцы першага паўгоддзя бягучага года налічваў 130 тысяч жыхароў. Сярод іх было больш 9 тысяч жанчын чым мужчын.




Яснай асенняй раніцай на Заходні вакзал Карлслуста прыбыла добра апранутая пара. Мужчына год сарака, у прасторным сінім паліто і серабрыстым капелюшы, далікатна вёў пад руку прыгожую спадарожніцу.

Пасажыры накіраваліся да поезда Карлслуст—Нюрнберг і ўвайшлі ў адзін з яго вагонаў. У руках жанчыны была прыгожая торба. Мужчына трымаў вудачкі ў чахле. Насільшчык унёс за імі чамадан. Рэчы ўлажылі ў багажную сетку. Неўзабаве поезд рушыў.

Гэтымі пасажырамі былі Тамара Штырава і Павел Перцаў.

Каб усвядоміць сабе, куды і навошта яны накіроўваліся, чытач павінен вярнуцца да ночы, якую правялі разведчыкі пад сценамі старыннага замка.

231

На світанні Аскер і яго таварышы перапаўзлі да падножжа гары і далей да таго месца, дзе адзіная дарога з замка злучалася з магістраллю. Аскер і Люлько засталіся тут, Перцаў пайшоў у горад. Праз гадзіну ён вярнуўся за рулём свайго старэнькага «Опеля».

— Пастаў за карчамі, — сказаў Аскер. — Яго не павінны пазнаць, калі паедзем следам.

«Опель» схавалі ў карчах, што цягнуліся непадалёк дарогі. Перцаў вынес з машыны пудэлка кансерваў, каўбасу і некалькі бутэлек піва. Усё гэта разлажылі на паляне. Разведчыкі селі навокал. Яны былі галодныя, і Перцаў папярэдзіў:

— Не спяшайцеся. Магчыма чакаць давядзецца доўга.

Люлько глянуў на гадзіннік, неспакойна кашлянуў.

— Што? — спытаў Аскер.

— У поўдзень мне на дзяжурства.

— Таак... — Аскер пажаваў губамі. — А Зейферта ведаеце толькі вы.

— Мо' не ісці: хворы і ўсё такое?...

Аскер паківаў галавой.

— Апішыце Зейферта.

Люлько падрабязна намаляваў аблічча генерала.

— Машына адкрытая?

— Так. Сіні «Хорх».

У адзінаццаць гадзін вароты замка адчыніліся і з іх выехаў аўтамабіль.

— Сіні «Хорх», — сказаў Аскер, калі машына наблізілася.

232

Перцаў наліў у шклянкі піва.

Машына праехала міма. У ёй быў толькі адзін чалавек — малодшы афіцэр.

— Ад'ютант Зейферта, — сказаў Люлько.

— А як жа яны? — спытаў Перцаў.

— Ёсць яшчэ машына Упіца. Белы «Мерседэс». Яшчэ гадзіна прайшла.

— Мне пара, — сказаў Люлько.

— Ідзіце, — кіўнуў Аскер.

...Сонца пачало хіліцца ўніз.

— Хутка дзве, — сказаў Аскер, глянуўшы на гадзіннік.

— Хвілінку, — спыніў яго Перцаў. — Здаецца яны!

Аскер павярнуўся. Ён убачыў: вароты замка адчыніліся, з іх выкаціў аўтамабіль.

— Машына Упіца, — сказаў Аскер.

Калі «Мерседэс» пранёсся міма, ён устанавіў: за рулём Упіц, на заднім сядзенні Зейферт і яшчэ нехта.

— Паехалі!

Перцаў сеў за руль, Аскер ззаду. «Опель» выбраўся на дарогу і пагнаўся ў горад.

Аўтамабілі дзяліла метраў трыста. Пярэдняя машына ішла на вялікай хуткасці, і старэнькі «Опель» прыкладаў адчайныя намаганні, каб не адстаць.

— Упэўнены, што трэці — Тэдар? — спытаў Перцаў.

(Працяг на стар. 4)

233

(Працяг са стар. 2)

# З лістаў дзяцей аб вайне

да хаты, яны забіралі жанчынам масла, хлеб, яйкі і сала. Аднойчы, робячы рэвізію, немцы знайшлі ў гумне Васіля Садоўскага партызана, які спаў на сене. У той самы дзень партызана і Васіля адвезлі самаходам да Белавежы і адтуль яны не вярнуліся. Пасля таго немцы пачалі рабіць рэвізіі часцей. А праз некалькі дзён яны загадалі жыхарам Тарнопаля перасяліцца над раку Нарву пад Луку. Перасяліцца было вельмі цяжка, бо хаты былі старыя і спарахнелыя. Такую хату, каб злажыць, трэба было многа новага матэрыялу. Немцы перавезлі нас пад Луку таму, што баяліся, каб не было сувязі з партызанамі. Але калі даведаліся, што і пад Луку прыходзяць партызаны, тады, восенню 1942 года усіх жыхароў Тарнопаля перавезлі ў Беласток. Усе мы там былі праз усю вайну. Некаторыя з жыхароў Тарнопаля і цяпер яшчэ жывуць у Беластоку, а рэшта вярнулася на папялішча».

**Даніла Бура**
Тарнопаль
Гайнаўскі павет

«Жыхары маёй вёскі Міхноўка ў часе другой сусветнай вайны былі вывезены фашыстамі ў Беласток, таму што дапамагалі партызанам. Тых, якія не дапамагалі, вывезлі толькі да Ляўкова Старога. У Беласток быў вывезены мой дзед, а бацьку забралі ў Германію. Калі вайна закончылася, людзі пачалі вяртацца на сваё месца — так як буслы штогод да свайго гнязда. Калі паприязджалі, не было дамоў, у якіх яны жылі. Бо калі фашысты вывезлі людзей прадалі старыя дамы другім вёскам, а з новых пабудавалі ў Ляўкове Старым бункры. Але людзі пачалі нанава будавацца, хоць было цяжка. Не было каня, ні каровы, ніякіх гаспадарчых прылад. Цяпер людзі жывуць добра і шчасліва. У 1962 годзе арганізавана сельскагаспадарчы гурток, куплена машыны і матор да малацьбы збожжа. Узялі таксама машыну, якая нішчыць непатрэбнае зелле на полі. Будуюць новыя дамы з цэглы, або з бетону. Крыюць хаты дахоўкай. Цяпер жыццё развіваецца, маладзее і расце ў шчасці».

**Яўгеній Рэент**
Міхноўка

**Пішуць аб вайне ў сваіх лістах старэйшыя, піша моладзь і дзеці якім расказвалі аб сваіх перажываннях старэйшыя. Хай ведаюць яны, новае пакаленне, ствараючае новую рэчаіснасць, як цяжка за гэтую рэчаіснасць было змагацца іх бацькам.**

Апрацаваў
**УЛ. ПАЎЛЮЧУК**



З ЖЫЦЦЯ БГКТ

## Пад старымі дубамі

Мясцовасць Плянта сваёй прыроднай прыгажосцю славіцца на ўсё наваколле Нараўкі. Старыя дубы растуць тут у пасторнай варонцы, якая стварае ўмовы натуральнага амфітэатра.

Мясцовасць Плянта пастаяннае месца фестынаў, якія арганізуе Павятовы аддзел БГКТ у Гайнаўцы. Апошні фестын адбыўся там у нядзелю 11 жніўня г.г. Людзей сабралася толькі, што стваралася ўражанне, быццам усе жыхары навакольных вёсак дагаварыліся на сустрэчу пад плянтаўскімі дубамі. Прыехалі людзі нават з Гайнаўкі, Дубін, Навасад, Дубічаў, Міхноўкі, Міклашэва... Амаль пад кожным кустом стаяў матацыкл. Гэта нейкі новы элемент у краявідзе сённяшніх усялякіх сялянскіх зборышчаў.

Арганізатары фестыну добра папрацавалі, каб запэўніць яго ўдзельнікам вартаснае правядзенне часу. Праграма мастацкіх выступленняў была так багатая, што прадаўжалася некалькі гадзін. Аматары з Дубіч Асочных выступілі з пастаноўкай п'есы «Мікітаў лапаць». Сцэну вясковым мастакам заступіла маленькая драўляная пляцоўка, а заслону і кулісы — кузаў фурганеткі «Ныса». У так неспрыяльных умовах самадзейнікі з Дубіч далі цікавую і даволі добрую пастаноўку агульнавядомай п'есы. Яны таксама задэманстравалі некалькі беларускіх песняў, сатырычных скетчаў і маналогаў. Апрача дубічан сваімі ўмеласцямі папісваўся хор з Дубін. А затым арганізатары падрыхтавалі конкурс на найлепш выкананую песню і цікавую «Згадуй-згадулю» на тэму: «Што ведаеш аб Беларускім грамадска - культурным таварыстве».

ГС з Нараўкі пастараўся забяспечыць удзельнікаў фестыну халоднымі напіткамі, вяндлінай, хлебам і булкамі.

Калі закончыліся мастацкія выступленні самадзейнікаў, калі арганізатары правялі ўжо свае конкурсы, уладу над фестынам пераняў аркестр. Асаблівай папулярнасцю сярод моладзі цешыўся твіст. І тут можна было пераканацца, што вёска не застаецца ззаду ад горада ў перайманні модных навінак. (вр)



**«Мікітаў лапаць» у выкананні самадзейнікаў з Дубіч Асочных.**



**Маленькую, наспех наладжаную сцэну цесна акружылі людзі.**



**Прадпрыемства «Дом кніжкі» з Гайнаўкі наладзіла на фестыне продаж кніжак і кніжную латарэю. Сярод другіх кніжак знайшліся амаль усе выдавецтвы ГП БГКТ.** **Фота В. РУДЧЫК**

Ён узлез на скалу, аглядзеўся. Месца падыходзячае. Заліў і ніжнія ярусы скал скрыты ад пабочных вачэй.

Перцаў спусціўся, палажыў на камень торбу. У ёй, пад тэрмасам з гарачым кофе, быў туга сцягнуты жмут дроту — антэна. Перцаў дастаў яе, разматаў, закінуў непадалёк на сасну. Штырава перайлезла з лодкі на камень, перадала таварышу чахол з вудачкамі.

Усеўшыся на скале, Перцаў наладзіў спінінг. Увесь гэты час ён уважліва сачыў за аколіцай. А дзвюма метрамі ніжэй, на маленькай пляцоўцы, акружанай уцёсамі, дзяўчына, адлажыўшы ўбок стракаты ручнік, які прыкрываў партатыўную рацыю, лоўка падключыла антэну, павярнула ручку рэастата і надзела навушнікі.

Мінут праз дзесяць дзяўчына зняла навушнікі, выключыла станцыю і змяніла на скале Перцава, пакуль той знімаў антэну.

Спусціўшыся ўніз, Перцаў знішчыў паперу з тэкстам шыфраванай радыёграмы, затым зарыў у пясок пад прыкметнай скалой перадатчык і правадку. У Карлслусце была другая станцыя. А хто ведае, што яшчэ з імі здарыцца на зваротнай дарозе?

**(Працяг за тыдзень)**

237

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# НЕ ТОЛЬКІ N P K

Хімія мае свой алфавіт. Паводле яго, літары — гэта сімвалы. Калі элементы сутыкнуцца з іншымі ствараюць хімічныя спалучэнні, абазначаемыя літарамі і лічбамі.

Сяляне часта сустракаюцца з сімваламі (літарамі) азоту (N), калія (K), фосфару (P) і кальцыя (Ca). Усё часцей гаворыцца пра рэакцыю глебы, гэта значыць пра правод кіслаты, або алкалоіду. На Беласточчыне маем каля 3/4 кіслотнай глебы. І так у Гайнаўскім павеце знаходзіцца: 74% кіслотнай глебы, 20% малакіслотнай глебы і 6% глебы абыякавай і алкалоіднай. У Сямяціцкім павеце выступае яшчэ большая кіслотнасць глебы: 89% кіслотнай глебы і 11% малакіслотнай. Таксама выглядае справа і ў іншых раёнах нашага ваяводства.

Трэба вапнаваць глебу. Гэта абавязкова. У адваротным выпадку цяжка лічыць на добры ўраджай, нават калі б прымянялі ўсе іншыя працэдуры, а таксама высокія дозы ўгнаення. Адносіцца гэта перш за ўсё да вапналюбных раслін: люцэрны, канюшыны, пшаніцы і г.д.

Апошнія доследы праведзеныя на Беласточчыне паказваюць на патрэбу вапнавання глебы, якая прызначаецца нават пад жыта і бульбу. Як сцвярджае інспектар даследвання IUNG Маліцкі, ураджай жыта пасеянага на вапнаванай глебе з'яўляецца вышэйшым. Вынікае гэта з таго, што маем многа глебы моцнакіслотнай, а жыта расце найлепш на глебах малакіслотных.

І так сімвал (літары) Ca павінен быць добра вядомым беластоцкім сялянам. Можна вапнаваць глебу зараз пасля скашэння збожжа, а можна гэта зрабіць і восенню. Правілы такія:

Пад пасевы ярыя (асабліва ячмень і пшаніцу), якія сеюцца пасля прапашных, трэба вапнаваць. Гэтая працэдура тым больш патрэбная, таму што маем намер зрабіць усеўку чырвонай канюшыны.

Пасля цукровых буракоў у асноўным не вапнуем. Вапнавае ўгнаенне як правіла даем пад гэтую расліну, і таму глеба не можа быць заквашанай. Выключэннем з'яўляецца тады, калі маем намер сеяць люцэрну.

Пад цукровыя буракі патрабуецца абыякавай глебы, або малакіслотнай. Поле вапнуем пераважна на пераломе верасня і кастрычніка. Угнаенне трэба павярхоўна заараць, незалежна ад ворыва перад зімою.

Калі маем намер сеяць струковыя расліны: гарох, боб, пялёнку, фасолю, віку — вапнаванне таксама патрэбнае. Бульба, жыта, лубін любяць малакіслотныя глебы. Вапнуем, калі заквашанне перавышае нормы прадугледжаныя для гэтых раслін.

Працэдуры выконваем у пагодлівыя дні. Глеба павінна быць слаба вільготнай. Пасля сяўбы ўгнаенняў пускаем барану, або плуг. Перад зімою павінна быць выканана глыбейшае ворыва.

**Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ**

# ЗАЛАТАЯ СТРАЛА ЧОРНАГА МОРА



На беразе Чорнага мора.

Свой водпуск правяла я над Чорным морам. Дакладней на паўднёвым пабярэжжы Крыма. Цяпер ізноў я ў Беластоку. Але ўсё яшчэ жыву пад уражаннем гэтага цудоўнага паўвострава.

Мора, Чорнае мора непадзельна расцягвае сваю ўладу над Крымам. Калісьці, вельмі даўно, марскія воды цалкам былі паглынулі паўвостраў. Тады перш за ўсё ўфармаваўся фантастычны краявід Крыма. Вада, бы магутны скульптар, замяніла шматлікія горы ў постаці рэдка спатыканых кшталтаў, а ў іх нутры вырыла прасторныя пячоры. Яшчэ сёння з мора стырчаць шматлікія скалы, якія з'яўляюцца найвышэйшай часткай былай зямлі. Яе паглынула мора. Пад уплывам мора фармуецца на Крыме ўвесь раслінны свет. Тут сустрэць можна такія дрэвы і кусты, якія растуць толькі ў зоне Міжземнага мора. Урэшце мора спрыяла таму, што Крым стаў слаўным на цэлым свеце месцам адпачынку. Тут пабудавана сотні дамоў адпачынку і курортаў. На Крым прыбываюць тысячы турыстаў з цэлага свету.

Жыццё адпачываючых канцэнтруецца вакол мора. Ужо на золку ідуць яны на пляж. Каб купацца і загараць. Больш аднак купацца, чымсьці загараць. Бо Крымскае сонца прыпякае так моцна, што нельга карыстацца яго дабрадзействамі бяскарна. Патрапіць яно не толькі змяніць белага чалавека ў індзейца, але яшчэ хутчэй можа яму падсмажыць шкуру, як скварку на патэльні.

Вада ў Чорным моры вельмі цёплая і чыстая. Праўдзівы гэта рай для вадалазаў. З гумовымі перапонкамі на нагах і з маскай на тварах ныраюць яны па некалькі метраў пад ваду, каб дастаць найбольш цэнную памятку з Крыма — каляровую ракавіну рэдкіх у нас слімакоў.

Не меншым атракцыёнам з'яўляюцца экскурсіі лодкамі да скал, якія стырчаць над вадою пасярэдзіне мора. Паездкі па моры адбываюцца таксама параходамі. Найлепш выбрацца на такую паездку вечарам, калі над морам кладзецца ранні змрок. Перад вачыма перасоўваецца тады цудоўная панарама крымскага берага. Раскінутыя па схілах гор сялібы зіхацяць агнямі, бы гіганцкая навагодняя ёлка. Увогуле вечар, ды асабліва у 11—12 гадзін ночы, гэта найбольш прыемны час прагулак над морам. Захапляемся тады асветленым берагам, слухаем безупынных песняў мора, па якому штораз слізгацяць струі партовых пражэктараў.

Над Чорным морам давялося мне прысутнічаць на ўрачыстасцях у гонар караля марскіх прастораў — легендарнага Нептуна. Як жа ж цудоўнае было гэта відовішча! Кароль Нептун плыве ў кампаніі марскіх піратаў і русалак, высаджваецца на бераг, а тут шматлікія інсцэніроўкі, танцы, штучныя агні. А потым прымусовае купанне ў моры тых, хто баіцца вады.




Нептун і яго світа.

Хто ведае Балтыку, таму Чорнае мора здаецца быць гладкім, спакойным, амаль без адной зморшчыны. Здараецца аднак, што ў адну мінуту паяўляюцца хвалі, насцярожаныя белымі хрыбтамі, залiваюць бераг, мора пеніцца і бурыцца. Праваднікі расказваюць тады такую вось легенду.

Даўно, вельмі даўно таму жыў на Крыме незвычайна моцны і смелы рыцар. Меў ён магутную зброю — залатую стралу. Аднак не ад золата і не ад дарагіх каменняў, якія яе ўпрыгожвалі, была слаўная яго страла. Славілася яна тым, што, выпушчаная з луку, ляцела з хуткасцю маланкі аж на край свету. А там, дзе падала, нічога жывога не заставалася — усё гарэла.

Страшэнная гэта была зброя. Знаходзілася яна аднак у руках разумнага чалавека, якому непатрэбны былі чужыя багацці, які не займаўся разбоямі і кражаю. Рыцар ніколі першым не распачынаў вайны, суседзі таксама не нападалі на яго. Усе баяліся рыцара.

Набліжаўся аднак канец яго жыцця. Доўга думаў славуты рыцар, каму пакінуць сваю незвычайную зброю. Не знайшоў аднак нікога дастаткова разумнага і моцнага. Нават пабаяўся пакінуць яе для двух сваіх сыноў. Прыказаў тады затапіць залатую стралу ў найглыбейшым месцы Чорнага мора.

— Хай ляжыць там так доўга, — сказаў рыцар, — пакуль на свеце не знойдуцца людзі, якім дарагі быў бы мір. Яны і адшукаюць залатую стралу.

Залатая страла прапала ў марской бяздонні. Пацямнела ад гневу мора, закіпелі, усхвалявaліся яго спакойныя воды. І ад таго часу Чорнае мора штораз бурыцца, шуміць ды табунамі шле хвалі, быццам бы хацела выкінуць са сваёй бяздонні смерцяносную зброю.

АНЕЛЯ ЛАБАНАЎ

Фота Я. МАЗУРЭК



# СКОКАМ—БОКАМ




Прадстаўляем чытачу серыю незвычайных скокаў.

На выстаўцы ў Парыжы адбыўся паказ «чалавека-ракеты». Ён утрымліваўся ў паветры 22 секунды і пераскочыў кулісты павільён ЗША.




У час гонак каля Стакгольма (Швецыя) шафёр Андэрсон зрабіў вось такі скок самаходам.

Дон Гордан — вынаходца і ўласнік амерыканскай фабрыкі падушак з гумовай губкі выпрабоўвае сваё вынаходства — скача на такую падушку з вышыні 7,5 м.

(вл)

## Як перахаваць яблыкі

Ураджай на яблыкі нядрэнны. За лета і восень іх не пераясі. А каму ж гэта не захочацца ўстраміць зубы ў сакавіты, свежы яблык, напрыклад, у студзені? Так, але як яго перахаваць, каб у студзені быў ён духмяны і сакавіты? Ёсць спосаб. Для гэтага патрэбны торф. Звычайны балотны торф. Трэба яго добра высушыць і пацерці на муку. Торф зберажэ яблыкі нават у тых памяшканнях, дзе дастаецца мароз. Яблыкі ў торфе перахоўваем наступна: на дно драўлянай скрынкі сыплем слой сухога торфу. На торф кладзем яблыкі так, каб яны не датыкаліся да сябе і да скрынкі. На яблыкі насыпаем ізноў слой торфу і г.д. Так захаваныя яблыкі не моршчацца, не гніюць, захоўваюць дасканалы смак, духмянасць ну і... цану.

# НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

## Вайна пачалася на 9 гадзін раней

31 жніўня 1939 года пунктуальна а восьмай гадзіне вечара шэсць «палякаў» заняло Глівіцкую радыёстанцыю і «польскі» агітатар падыйшоў да мікрафона. Ён крычаў, што настаў час расплаты паміж Нямеччынай і Польшчаю, і заклікаў усіх польскіх патрыётаў біць - рэзаць немцаў. Прамова была перарывана выстраламі...

Праз дзесяць мінут прадстаўленне скончылася. Гітлер атрымаў патрэбнае «апраўданне», каб пачаць вайну — заўтра, першага верасня, у 5 гадзін раніцы.

Напад на Глівіцкую радыёстанцыю — гэта яшчэ адна каварная хітрасць гестапаўскіх правадыроў, якія выкарысталі факт, што на тэрыторыі Верхняга і Ніжняга Шлёнска пражывала значная польская нацыянальная меншасць.

Правакацыя, шантаж, катаванні, забойствы — вось метады работы гестапа і ягонага шэфа Рэйнгарда Гейдрыха. Зрэшты, ён сам зрабіў сабе кар'еру дзякуючы шантажу. Дадаўся, што нейкі высокапастаўлены прускі чыноўнік вядзе сакрэтную перапіску з канкурэнтам Гітлера — Грэгорам Штрасерам. Гейдрых выследзіў месца, дзе хаваліся пісьмы кампраметуючыя Штрасера і выкраў іх. Пасля гэтага ён пачаў хутка авансаваць.

Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што падобнымі справамі займаліся не толькі людзі гестапа. Дзень нараджэння Абвера — ваеннай разведкі Германіі — быў адзначаны ў стылю, які стаўся ўжо традыцыйным: зверскім забойствам кіраўніка ваеннай разведкі рэйхсвера генерала фон Брэдава. Гэты чалавек залішне ведаў пра Гітлера. Расказваюць, што ў яго сейфе хаваліся сакрэтныя дакументы, якія сведчылі аб тым, што калісьці Гітлер падлізаўся на ніве дробнага шпіянажу, служыў у ахранцы і нават быў завербаваны інфарматарам адной замежнай дзяржавы. Словам, прычыны знішчыць фон Брэдава былі. Але Гітлеру ў гэтым выпадку разыходзілася перад усім пра тое, каб на чале Абвера паставіць свайго даверанага. Выбар паў на адмірала Вільгельма Канарыса. Забягаючы наперад, скажам, што гэты вядомы арганізатар шпіянажу хаця і быў перакананым нацыстам, і вялікаю апораю Гітлера, аднак закончыў кар'еру як адзін з арганізатараў змовы супроць свайго фюрэра. Па асабістаму ўказанню Гітлера ў 1944 годзе ён быў павешаны на тонкай струне ад піяніна — Гітлеру хацелася прадоўжыць смяротныя мукі свайго былога слугі.

Напярэдадні другой сусветнай вайны штатны апарат абвера налічваў каля васемнаццаці тысяч чалавек не лічачы тысяч інфарматараў ва ўсіх закутках свету. У той час галоўная ўвага ваеннай разведкі была накіравана на Францыю і Польшчу, дзе планавана агрэсію. «Недаступная» лінія Мажыно на французска - нямецкім пагранічны задоўга да пачатку зайсковых аперацый фактычна была ўжо прарвана. Зрабіл гэта агенты Канарыса, ад якіх аж кішэла цэлая Францыя. Ім удалося завербаваць двух французскіх афіцэраў, што знаходзіліся ў ключавых пазіцыях лініі Мажыно. Ад аднаго з іх, капітана Крэдля, ад'ютанта камандзіра ўмацаванага сектара Меца, немцы атрымалі некамплектныя планы. Дакладнейшую інфармацыю перадаў ім другі прадажнік — капітан Жорж Фрожэ. Нямецкая разведка ўстанавіла, што Фрожэ, ведаючы пра важныя таямніцы абароны сваёй радзімы, мала паважае яе палітычны лад. Прытым выяснілася, што яму моцна патрэбны грошы. Такога чалавека ўжо лёгка зрабіць сваім агентам.

Любоў да грошай, прагнасць да пахванак — вось што прымусіла некаторых французаў зысці на дарогу здрады і прадажніцтва. Адзін малады лейтэнант з добрай сям'і трапіў у рукі цудоўнай Лідзіі Освальд — агенткі Абвера. Гэты лейтэнант меў доступ да асабістай канцылярыі адмірала Дарлана — галоўнакамандуючага французскім флотам. І так, напрыклад, калі адмірал Дарлан даў загад аб мабілізацыі флоту, немцы даведаліся аб гэтым загадзе хутчэй чымсьці сам французскі флот! Агент Абвера Ота Балціс вярнуўся ў Берлін з падрабязным спісам французскіх аэрадромаў і дакладнымі інфармацыямі аб самалётах і іх экіпажах. Чалавек, ад якога Балціс атрымаў гэтыя інфармацыі, быў маладым капітанам ВВС Францыі, які трапіў у пастку шпіянажу, дзякуючы чароўнай эльзаскай*) каханцы.

* ✲ *

Прайшло дваццаць год, але мы яшчэ надта мала ведаем таямніцы апошняй вайны. Разведкі ўсіх краін вядомы сваёй маўклівасцю. (а-ся)

*) Эльзасцы — невялікая нацыя германскага паходжання, якая пражывае ва ўсходняй Францыі — у раёне Страсбурга і Мюлуз. Мова эльзасцаў — нямецкая.

